**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№30(642)**
**26 ліпеня 2012 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



## МНС інфармуе на 24.07.2012 года:

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 685;
Гібель людзей – 85, з іх 3 дзіцяці;
Урон – 3748,7 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 29;
Гібель людзей – 5, з іх дзяцей няма;
Урон – 203 850 000 руб.

**На Беларусі пачалося жніво.**
*Photo ByMedia.net*



# У Беларусі пачалася масавая ўборка збожжавых

**У Беларусі пачалася масавая ўборка збожжавых, паведамляе Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання.**

Паводле даных на 23 ліпеня, збожжавыя ўбраныя на 208,5 тыс. га, што складае 8,6% ад запланаванай плошчы (2 млн. 424,8 тыс. га). Уборка лічыцца масавай, калі ў цэлым па краіне ўбрана 5% плошчаў.

У Брэсцкай вобласці збожжавыя ўбраныя на плошчы 88,5 тыс. га (24,9% ад плана), у Гомельскай — 65,3 тыс. га (17,7%), Гродзенскай — 27,1 тыс. га (7,8%), Мінскай — 21,8 тыс. га (4%), Магілёўскай — 4,2 тыс. га (1,27%), Віцебскай — 1,8 тыс. га (0,4%).

Па стане на 23 ліпеня ў краіне намалочана 782,8 тыс. тон збожжа пры сярэдняй ураджайнасці 37,5 ц/га. Самая высокая ўраджайнасць склалася ў Гродзенскай вобласці 49,2 ц/га, самая нізкая — у Гомельскай вобласці (30 ц/га).

Азімы рапс ужо ўбраны на 304,1 тыс. га (80,3% ад пасеянага), яго намалочана 629,9 тыс. тон пры сярэдняй ураджайнасці насення 20,7 ц/га. Лён вырваны на 7,8 тыс. га (12,2% ад пасеянага).

*А. Кажамякін, БелаПАН.*



*Віншуем ксяндза Аляксея, душпастыра Мосарскай парафіі 29 ліпеня з 29-ым Днём Нараджэння!*

**А таксама віншуем яго з гадавінай святарства, якая прыпадае на 25 ліпеня!**

Жадаем моцнага здароўя душы і цела, Божага благаслаўлення і Духа Святога ў душпастырстве!

**http://mosar.vickyblog.com**



Глыбоцкі раён

# У надзвычайным рэжыме

■ Станіслаў Раманчук

**Услед за паўднёвымі рэгіёнамі Беларусі масавая ўборка зернявых пачалася і ў Віцебскай вобласці, дзе болей двух тысяч камбайнаў выйшлі ў поле пазней астатніх.**

Аднак працы ім сёлета будзе шмат, паколькі ў Прыдзвінні трэба ўбраць вырашчаны ўраджай зерня на плошчы амаль паўмільёна гектараў. У сувязі з гэтым кіраўніцтва вобласці загадала перавесці міжраённы дылерскі цэнтр і райаграсервіс у Глыбокім на асаблівы рэжым дзейнасці. Цяпер сельскія працаўнікі змогуць тут, а таксама ў Оршы і ў Віцебску атрымоўваць неабходныя запчасткі да збожжаўборачнай тэхнікі штодзень нават да 12 гадзін ночы. Сёлета на зернявыя палеткі краю выйдуць таксама і 84 новыя камбайны, якія паставіла вобласці ВА "Гомсельмаш". Такая колькасць тэхнікі – сур'ёзная дапамога хлебаробам, бо ў сярэдзіне ліпеня яшчэ каля 10 працэнтаў такіх машын не былі гатовыя да ўборачнай. Яшчэ больш няспраўнай тэхнікі было ў гаспадарках Верхнядзвінскага, Полацкага і Пастаўскага раёнаў. Вядома, у аўральным рэжыме рамонту і спешцы потым надзейнай працы на палях можна і не дачакацца. Ды і раней часта здаралася, што і новыя беларускія камбайны ламаліся ў першыя дні працы, выходзілі са строю асобныя іх агрэгаты. Як і раней, у вобласці існуе пэўнае напружанне і з кадрамі механізатараў, хоць стаць камбайнерамі з-за высокіх заробкаў у сезон жадаюць многія. На дапамогу вяскоўцам з гарадоў адправіліся некалькі соцень завадчан, работнікаў прадпрыемстваў і арганізацый. Для адвозкі зерня з палёў і ўборкі саломы таксама задзейнічаны транспарт з розных арганізацый рэгіёна.

Полацкі раён

# Каб жылося цікавей

■ Чэслаў Якубовіч

**Не толькі сваёй багатай гістарычнай спадчынай і наяўнасцю акрамя Нацыянальнага музея-запаведніка 24 помнікаў археалогіі і 4 помнікаў архітэктуры стаў вядомы апошнім часам Полацкі раён.**

У адрозненне ад суседзяў, жывуць тут людзі ініцыятыўныя, якія неардынарна думаюць і дзейнічаюць. На свой чарговы чэмпіянат раёна па зборы чарніц раніцай у ваколіцах аграгарадка Заазер'е сабралася амаль 70 каманд, усяго каля трохсот ягаднікаў. Пакуль самі ўдзельнікі незвычайнага першынства на працягу пяці гадзін збіралі вітаміны ў лясным масіве, для астатніх арганізавалі забаўляльную праграму. Тым часам у рабочым пасёлку Фарынава адкрыў тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва нават свой антыкрызісны цэнтр. У памяшканні дзіцячага садка з асобным уваходам чакаюць тых землякоў, хто неспадзявана апынуўся ў цяжкай жыццёвай сітуацыі альбо перажыў моцны стрэс, страту блізкіх, насілле ў сем'ях. Часова ў гэтым доме з двума пакоямі і нават кухняй могуць прыняць тых людзей, каму патрабуецца тэрміновая дапамога і кансультацыі прафесіянальнага псіхолага. На дапамогу ў здавалася б невырашальных сітуацыях прыйдуць розныя спецыялісты і супрацоўнікі праваахоўных органаў. А работнікі раённай бібліятэчнай сістэмы першымі ў краіне ажыццявілі праект па інфармацыйнаму забеспячэнню сваіх чытачоў. У раёне запрацаваў рухомы аўтаінфацэнтр на калёсах. Першы такі выезд адбыўся ў Палатоўскі сельсавет, дзе людзей цікавілі пенсійныя пытанні. На месцах вяскоўцаў-чытачоў разам з работнікамі бібліятэкі пракансультавалі па ўсіх праблемах спецыялісты, якія імі займаюцца. У далейшым інфармацыйныя цэнтры прыедуць туды, адкуль паступяць заяўкі ад старэйшынь вёсак і сельсаветаў па хвалюючых жыццёвых сітуацыях.

Пастаўскі раён

# Зноў мода на кіно

■ Кастусь Александровіч

**У недалёкім мінулым савецкія людзі з задавальненнем хадзілі ў кіно як у вялікіх гарадах, так і ў сельскай мясцовасці.**

У наш час айчынны кінапракат перажывае вялізныя цяжкасці, на Віцебшчыне ўвогуле засталося зусім няшмат кінатэатраў. А вось у Паставах наадварот цэнтральны кінатэатр горада "Радзіма" перажывае сапраўднае адраджэнне. Яшчэ да Дня беларускага пісьменства будынак пасляваеннай пабудовы капітальна адрамантавалі. У мінулым годзе пачаліся тут паказы лічбавых фільмаў у папулярным фармаце 3D аб'ёмнага трохмернага адлюстравання. Праўда, абсталяванне прадаставіла прыватная фірма. Вялікі інтарэс выклікалі і паказы фільмаў і ў фармаце 5D з рознымі спецэфектамі. Сёлета кіраўніцтва раёна выдзеліла сродкі для набыцця кінатэатрам свайго лічбавага праектара з вельмі сочнымі кадрамі і стэрэагукам. Рэпертуар мясцовага кінавідэапрадпрыемства дасягнуў каля ста касавых фільмаў для розных катэгорый гледачоў. І народ, як у былыя часы, зноў пайшоў у кіно. На бестселеры, мультфільмы, прыгоды і трылеры пастаянна прадаюцца білеты, на сеансы прыходзяць дзеці і дарослыя, прыязджаюць адпачываючыя з нарачанскіх курортаў. Гэтаму спрыяе гібкая цэнавая палітыка і кошт білетаў ад 10 да 20 тысяч рублёў, розныя акцыі і зніжкі. Увогуле любому гледачу бясплатна пакажуць кіно ў дзень яго нараджэння. Тут пачалі ствараць музей кінафікацыі Пастаўшчыны і свой кінаклуб. Пры кінатэатры адкрылася артгалерэя фотаклуба "Светасіла", і акрамя фільмаў можна пабачыць цудоўныя работы фотамастакоў.

# Лічба нумара

**51000** – столькі юнакоў і **дзяўчат** залічаць у Беларусі сёлета на дзённую форму навучання ў айчынных ВНУ на першы курс. Здавалася б, гэта даволі шмат, паколькі ў гэтым годзе беларускія сярэднія школы і гімназіі скончылі 65, 5 тысяч выпускнікоў-адзінаццацікласнікаў. Дарэчы, наша краіна зноў уступіла ў дэмаграфічную яму, бо летась выпускнікоў беларускіх школ было на 10 тысяч болей. Аднак абітурыентам разлічваць на больш лёгкае паступленне не выпадае, бо па рашэнні Мінадукацыі РБ беларускія універсітэты, акадэміі і інстытуты скарацілі на 14 тысяч колькасць месц для першакурснікаў.

Як і папярэдні месяц, ліпень вельмі трывожны і хвалюючы для маладых людзей і іх бацькоў. Ззаду засталіся выпускныя школьныя экзамены і іспыты на пунктах цэнтралізаванага тэсціравання. На гэтыя выпрабаванні сёлета зарэгістраваліся больш 141 тысячы чалавек. Паколькі айчынныя ВНУ скарацілі прыём студэнтаў, з улікам завочнікаў і студэнтаў вячэрняй формы навучання жаданыя студэнцкія білеты атрымаюць толькі 91,6 тысяч першакурснікаў. Значыць, каля 50 тысяч абітурыентаў аўтаматычна з гэтай кагорты выпадаюць, ім можна прэтэндаваць на атрыманне сярэдняй спецыяльнай адукацыі пры ўмове атрымання неблагіх балаў па тэстах профільных прадметаў.

Яшчэ адной асаблівасцю сёлетняга года стала тое, што тыя выпускнікі, хто атрымаў на ЦТ па 1-6 балаў, не змогуць падаваць дакументы ў прыёмныя камісіі айчынных ВНУ. А такіх, асабліва па матэматыцы, аказалася шмат. Гэты прадмет зарэгістраваліся здаваць 95163 юнакоў і дзяўчат. З іх 11,27 % не пераадолелі прахадны парог 7 балаў, а гэта болей 10 тысяч чалавек. З аўдыторый навогул выдалілі 17 абітурыентаў, а каля 4 тысяч складаны прадмет завалілі, 400 чалавек атрымалі 0 балаў. З іншага боку аказалася 46 светлых галоў, якія паказалі бліскучыя матэматычныя веды і атрымалі кожны па 100 балаў.

Цяпер спецыялісты сцвярджаюць, што ў любым ВНУ малады чалавек зможа прадоўжыць вучобу, калі мае падрыхтоўку дзесьці на 40 балаў. Інакш можна не здаць залікі і экзамены на першай жа сесіі і трапіць у лік адлічаных за непаспяховасць. Сёлета толькі дзве беларускія дзяўчыны атрымалі двойчы па 100 балаў. Што прыемна, сярод іх адна выпускніца з Чашніцкага раёна Віцебшчыны, праўда, яна вучылася ў адной з гарадскіх школ Новалукомля.

Па існуючай традыцыі, у ліпені спачатку прымалі дакументы ад тых, хто хацеў бы прадоўжыць вучобу ў ВНУ ваенных і міліцэйскіх структур, а таксама на творчыя спецыяльнасці. Акрамя атрыманых сертыфікатаў ва ўстановах культуры моладзі неабходна будзе паспяхова здаць і творчыя экзамены. Пакуль жа зусім хутка і тыя, хто не набярэ прахадны бал на бюджэтныя месцы ( з 10 прынятых студэнтаў толькі 3 могуць разлічваць вучыцца бясплатна) будуць падаваць дакументы на завочную і вячэрнюю формы навучання і затым на платныя аддзяленні.

Асаблівая для юнакоў перспектыва вучыцца завочна неспрыяльная, бо іх сталі ў нас забіраць на ваенную службу з-за недахопу прызыўнога кантынгенту. Цяпер паўсюдна прыёмныя камісіі працуюць з павышанай нагрузкай і чатыры разы на дзень паведамляюць звесткі аб колькасці пададзеных заяў на паступленне. Пропуск у жаданае студэнцкае жыццё атрымаць быццам і не складана, калі маеш добрыя веды. Аднак відавочна, што быццам бясплатная сістэма атрымання вышэйшай адукацыі на справе становіцца ўсё больш затратнай для большасці беларускіх сем'яў.

Плаціць ім прыходзіцца не толькі за вучобу цяпер ужо да 7-8 млн. рублёў за навучальны адзін курс у прэстыжных ВНУ, але і за здымнае жыллё. Нават у сталіцы аб'яўленая новая студэнцкая вёска будуецца не так шпарка, як лядовыя палацы раней. Праўда, аб'яўлены пераход на скарочаныя на год-паўгода тэрміны падрыхтоўкі спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй. У большасці айчынных ВНУ будуць зусім хутка адкрыты магістратуры 2-й ступені вышэйшай адукацыі для тых, хто мае здольнасці да навукова-даследчай працы і для навучання ў аспірантуры. Хто атрымае жаданы студэнцкі білет, стане вядома зусім хутка і хацелася б, каб сярод іх было найменей выпадковых людзей, а больш толькі самых падрыхтаваных, з глыбокімі ведамі. З такіх вось абітурыентаў і атрымоўваюцца потым сапраўдныя прафесіяналы ва ўсіх сферах дзейнасці.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 26.07.12 | | | | Пятніца 27.07.12 | | | | Субота 28.07.12 | | | | Нядзеля 29.07.12 | | | | Пнд.30.07.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +15 | +21 | +24 | +20 | +16 | +21 | +26 | +23 | +16 | +23 | +28 | +25 | +20 | +23 | +29 | +26 | +21 | +23 | +30 |
| Ціск | 750 | 749 | 749 | 748 | 748 | 748 | 748 | 748 | 748 | 748 | 747 | 746 | 746 | 746 | 745 | 744 | 743 | 744 | 745 |
| Вільготнасць | 90 | 74 | 63 | 92 | 98 | 82 | 50 | 80 | 95 | 75 | 45 | 67 | 74 | 75 | 40 | 59 | 67 | 76 | 50 |
| Вецер м/сек | 5 Ю-В | 3 Ю | 2 Ю | 3 С-В | 3 Ю-В | 2 В | 1 В | 4 В | 4 Ю-В | 4 Ю-В | 5 Ю-В | 6 Ю-В | 7 Ю-В | 5 Ю | 6 Ю-В | 7 Ю-В | 8 Ю-В | 5 Ю | 4 Ю |

## Дзень за днём

**Попыт на замежную валюту зноў пачаў расці ў Беларусі. У першым паўгоддзі колькасць спраў аб банкруцтве ў беларускіх судах павялічылася яшчэ на 9,3 %. Краіна адсвяткавала Дзень Незалежнасці, але выходзіць адразу на волю па амністыі зняволеныя не сталі, бо не быў падпісаны адпаведны Указ. Эксперты падлічылі, што на святочны ваенны парад у Мінску пайшло да 1,2 млн. долараў, з улікам эканоміі бюджэтных сродкаў. Праезд для беларусаў у электрычках і цягніках падаражэў адразу на 20 %, а ў вагонах павышанай камфортнасці нават – на 33-50 %. У склад акруговых выбарчых камісій у Мінску нечакана ўключылі нават 14 прадстаўнікоў апазіцыі.**

# Важнейшыя навіны свету

**Сірыя.** Спецпасланнік ААН Кофі Анан прызнаў правал мірнага ўрэгулявання крызісу, урадавую армію пакінуў бліжэйшы паплечнік Б. Асада 23-ці па ліку генерал Манаф Тлас.

**Расія.** У выніку невераготна моцных ліўняў і паводкі ў Краснадарскім краі загінула больш 170 чалавек, пацярпелі 29 тысяч, матэрыяльныя страты перавысілі 1 мільярд рублёў.

**Украіна.** Прыняцце Радай скандальнага закона аб мовах выклікала сутычкі ў Кіеве з паліцыяй, адстаўку спікера парламента і яго намесніка, пачаўся востры палітычны крызіс.

**Швейцарыя.** На сесіі Савета ААН па правах чалавека ў Жэневе прагаласавалі за ўвядзенне мандата спецдакладчыка па Беларусі, што выклікала абурэнне яе кіраўніцтва.

**Швецыя.** У адказ на заявы Мінабароны РБ шведскія пілоты выставілі новыя відэадоказы, як яны праніклі ў паветраную прастору Беларусі і правялі акцыю ў падтрымку свабоды.

**Румынія.** Парламент прагаласаваў за адхіленне ад улады прэзідэнта Траяна Басэску, але гэта рашэнне павінен яшчэ пацвердзіць усенародны рэферэндум, які павінен адбыцца на працягу месяца.

**Аргентына.** Вярхоўны суд пакараў 50 гадамі турмы 87-гадовага экс-дыктатара прэзідэнта Хорхе Відэле за сістэматычныя выкраданні маленькіх дзяцей сваіх палітычных апанентаў.

**Камбоджа.** Сусветная арганізацыя аховы здароўя і медыкі краіны пачалі даследванні невядомай інфекцыі, ад якой загінула 61 дзіця з захварэўшых 62 ва ўзросце да 7 гадоў.

**Японія.** Парламенцкая камісія ўстанавіла, што прычынай катастрофы на АЭС "Фукусіма-1" стаў чалавечы фактар, на яе поўны вывад з эксплуатацыі спатрэбіцца каля 30 гадоў.

**Германія.** Падчас канфіскацыі здымнай кватэры ў горадзе Карлсруе злачынца застрэліў судовага прыстава, двух яе новых уладальнікаў і быў сам забіты спецназам паліцыі.

**Украіна.** Раніцай на трасе Чарнігаў-Кіеў перавярнуўся аўтобус з расійскімі турыстамі-паломнікамі, якія падарожнічалі па святых месцах. У выніку аварыі загінулі 17 і 29 чалавек былі паранены.

**Індыя.** Армія выратавала больш 400 турыстаў, адрэзаных селем у горнай мясцовасці, аднак загінула з-за моцнай паводкі болей 570 рэдкіх жывёл у нацыянальным запаведніку.

**Эстонія.** Суд на 2 месяцы пазбавіў вадзіцельскіх правоў мэра Таліна Эдгара Савісаара за перавышэнне хуткасці і аштрафаваў яго яшчэ на 320 еўра за язду па трасе на Нарву.

**Англія.** У Лондане адкрылі самы высокі ў Еўропе хмарачос вышынёй 310 метраў са шкла і сталі, які ўмяшчае на 95 паверхах да 12 тысяч чалавек, мае люкс-гатэль, шмат рэстаранаў.

**Швейцарыя.** Савет Міжнароднай федэрацыі футбола FIFA прыняў рэвалюцыйнае рашэнне аб увядзенні электроннай сістэмы фіксацыі ўзяцця варот на ўсіх матчах у свеце.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Івянец.** Прэс-служба Міністэрства абароны РБ абвергла паведамленні СМІ Швецыі аб быццам палёце над гарпасёлкам шведскага лёгкаматорнага самалёта ў рамках піяр-акцыі.

**Гомель.** Прама з урачыстай літургіі ў Петра-Паўлаўскім саборы хуткая забралаў бальніцу кіраўніка Беларускай праваслаўнай царквы Філарэта, якому стала дрэнна ў спёку.

**Мінск.** Шэраг дасведчаных крыніц паведамілі аб арышце на рабочым месцы 51-гадовага першага намесніка старшыні Мінгарвыканкама па ЖКГ і энергетыцы Ігара Васільева.

**Горкі.** Да "Дажынак-2012" вельмі марудна вядуцца работы па ўзвядзенні культурна-забаўляльнага комплексу акадэмгарадка і на яшчэ 90 буйных аб'ектах у райцэнтры.

**Бяроза.** Інвестары з Галандыі і Швейцарыі зацікаўлены ў набыцці мясцовага сыраробнага камбіната, якому дазволены экспарт у ЕС, пацвердзіў дырэктар прадпрыемства У. Папеня.

**Мінск.** Сумесна з італьянскай фірмай Fassi МАЗ пачаў выпуск грузавых машын з кранамі-маніпулятарамі, да канца года павінен быць створаны сумесны холдынг з КАМАЗам.

**Лоеў.** Міліцыя сумесна з пагранічнікамі выявіла і знішчыла на тэрыторыі раёна буйную плантацыю каноплі на плошчы болей 2 гектараў у рамках аперацыі супраць наркотыкаў.

**Мазыр.** Мясцовы НПЗ пачаў пакуль у невялікіх аб'ёмах экспартныя пастаўкі маторнага паліва ў Расію, зімой чакаюцца пастаўкі на расійскі рынак і арктычнага паліва для аўто.

**Магілёў.** Экс-кандыдат у прэзідэнты М. Статкевіч патэлефанаваў жонцы з турмы і папрасіў прабачэння за тое, што не будзе пісаць прашэнне да ўлад аб сваім памілаванні.

**Стаўбцы.** У яме ў вёсцы Засулле знайшлі прысыпаную зямлёй забітую вучаніцу 11-га класа Засульскай СШ, міліцыя затрымала падазронага 18-гадовага мясцовага душагуба.

**Клецк.** Упрыгожваннем райцэнтра стаў адроджаны з небыцця касцёл Святой Тройцы, разабраны камуністамі на будматэрыялы, храм асвяціў мітрапаліт Беларусі Т. Кандрусевіч

**Мінск.** У адным з лепшых кінатэатраў сталіцы "Октябрь" устанавілі новую відэатэхніку і самы вялікі ў Беларусі сучасны лічбавы экран 3D, поўнасцю адмовіліся ад кінаплёнкі.

**Шклоў.** У роднай вёсцы А. Лукашэнкі Александрыі прайшло пампезнае свята Купалля"Славянскі кагарод" з гала-канцэртам артыстаў РБ, РФ і Украіны на беразе Дняпра

**Мінск.** Легендарны савецкі футбаліст Алег Пратасаў стаў 26-м па ліку ў новым стагоддзі галоўным трэнерам ФК "Дынама", такую практыку ўвёў гаспадар клуба алігарх Ю. Чыж.

**Мазыр.** Міліцыя затрымала 22-гадовага раней судзімага гараджаніна, які апаганіў дзве праваслаўныя царквы, 5 гадоў таму ён падпаліў тут сабор, за што трапіў у турму.

# Спрошчаны парадак рэгістрацыі шлюбу



■ Анастасія Янушэўская, БелаПАН

**24 ліпеня, пасля таго, як набыў моц закон «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Кодэкс аб шлюбе і сям'і», у Беларусі спрашчаецца парадак рэгістрацыі шлюбу.**

Як паведаміла кансультант упраўлення натарыята і загсаў Міністэрства юстыцыі Алена Мяцельская 19 ліпеня на прэс-канферэнцыі ў Мінску, мінімальны тэрмін, які павінен прайсці з моманту падачы заявы да рэгістрацыі ўзяцца шлюбу, паменшаны з 15 да трох дзён. Пры наяўнасці пацверджаных дакументальна асаблівых акалічнасцяў, такіх як наяўнасць агульнага дзіцяці, цяжарнасці ці іншых (камандзіроўка, стан здароўя і г.д.), шлюб можна зарэгістраваць і ў дзень падачы заявы. Максімальны тэрмін, які дапускаецца з моманту падачы заявы да рэгістрацыі шлюбу, як і раней, складае тры месяцы.

Упершыню замацавана магчымасць ажыццяўляць рэгістрацыю шлюбу ў любым органе ЗАГС па выбары асоб, якія бяруць шлюб.

Акрамя таго, даецца магчымасць правесці рэгістрацыю шлюбу за межамі памяшкання загса, напрыклад на прыродзе ці ў любым памяшканні, якія абяруць будучыя муж і жонка. Цяпер рэгістрацыя шлюбу праводзіцца органамі ЗАГС па месцы жыхарства адной з асоб, якія бяруць шлюб, ці іх бацькоў.

Як паведаміла Мяцельская, як і раней, для ўзяцця шлюбу асобы падаюць у органы ЗАГС сумесную заяву, падпісаную абодвума бакамі. Калі адна з асоб, якая збіраецца ўзяць шлюб, не можа звярнуцца асабіста, дапускаецца падаванне ў загс натарыяльнага сведчання подпісу асобы. Для рэгістрацыі ж шлюбу абавязковая яўка дзвюх асоб.

Як і раней, пры рэгістрацыі шлюбу ставіцца адзнака ў пашпарце ці дакуменце, што сведчыць асобу.

Як паведаміла начальнік упраўлення прававога рэгулявання сацыяльнай дзейнасці дзяржавы Міністэрства юстыцыі Алена Цалко, закон прадугледжвае магчымасць рэгістрацыі ў органах ЗАГС шлюбаў, зарэгістраваных паміж замежнымі грамадзянамі, калі хаця б адзін з іх мае дазвол на пражыванне ў Беларусі. Цяпер такія шлюбы паміж замежнымі грамадзянамі незалежна ад наяўнасці ў іх дазволу на пастаяннае пражыванне рэгіструюцца ў Беларусі толькі ў дыпламатычных прадстаўніцтвах і консульскіх установах замежных дзяржаў. «На практыцы нярэдкія выпадкі, калі замежныя грамадзяне не маюць ніякай магчымасці ўзяць шлюб у краіне пражывання», — адзначыла Цалко.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Пасля капітальнага рамонту коштам 3,5 мільярда рублёў адкрылі адзін з карпусоў абласнога клінічнага цэнтра псіхіятрыі і наркалогіі, пабудаваны яшчэ ў 1972 годзе.

**Верхнядзвінск.** На стыку граніц РБ, РФ і Латвіі паблізу Кургана Дружбы ў 53-ці раз прайшла традыцыйная сустрэча ветэранаў вайны, сам мітынг адбыўся на латвійскім баку граніцы.

**Наваполацк.** Ад экспарту нафтапрадуктаў ААТ "Нафтан" атрымаў за год 2,2 трыльёна рублёў страт, амаль увесь прыбытак (2,5 трыльёна ) пайшоў у расійскі бюджэт на выплаты пошлін.

**Віцебск.** Новы начальнік абласной міліцыі, палкоўнік Ігар Яўсееў прызнаўся, што быў прыемна здзіўлены, калі на ўрачыстасцях на дзень горада не ўбачыў на вуліцах п'яных.

**Новалукомль.** Выпускніца СШ № 2 горада Карына Пачко сенсацыйна атрымала на тэсціраванні 100 балаў па хіміі і столькі ж па біялогіі, яна паступіць у медуніверсітэт.

**Глыбокае.** У цэнтры горада на брацкай магіле савецкіх салдат і партызан з'явіўся вялікі прыгожы хрысціянскі крыж, за савецкім часам такое ўявіць было проста немагчыма.

**Докшыцы.** У цэнтры мястэчка Круляўшчызна прайшло свята цяпер аграгарадка "Падарожжа ў часе, або 20 год пасля", тут адкрылі завод грунтоў, ДК пасля рамонту.

**Віцебск.** У вёсцы Вымна 46-гадовы непрацуючы п'яны мужчына моцна збіў, а потым задушыў 31-гадовую мясцовую дзяўчыну, яе цела выкінуў у прыдарожную канаву.

**Орша.** У выніку наўмыснага падпалу ноччу на тэрыторыі станцыі тэхабслугоўвання былі пашкоджаны агнём альтанка, дах летняга кафэ для кліентаў і дзверы гаражоў.

**Віцебск.** На тэрыторыі раёна на беразе ракі Заронаўка ля вёскі Новікі знайшлі 87 авіябомб, 14 мін, 9 артылерыйскіх снарадаў і 7 узрывальнікаў, злавесны арсенал знішчылі сапёры.

**Бешанковічы.** Рабочы райбыткамбіната, жыхар райцэнтра трагічна загінуў ад удару токам, калі дапамагаў суседу ставіць новы жалезабетонны плот і трапіў над напружанне.

**Паставы.** Кінатэатр "Радзіма" набыў новае сучаснае 3D абсталяванне для паказу фільмаў, мае ў рэпертуары больш 80 лічбавых карцін для розных катэгорый гледачоў, малы зал 2D.

**Глыбокае.** Нядзельная навальніца з ураганам пашкодзіла дахі 6 дамоў райцэнтра і моцна цэнтр горада, былі пашкоджаны 2 фермы і калгасная майстэрня ў Верхнядзвінскім раёне.

**Браслаў.** Вечарам паблізу райцэнтра не справіўся з кіраваннем, ударыўся ў кювеце ў дрэва вадзіцель квадрацыкла "Грызлі", у выніку ДТЗ загінулі два курсанты Акадэміі МУС РБ.

**Віцебск.** З-за адсутнасці грошай у музея Марка Шагала на ўрачыстасцях 125-гадовага юбілею мастака не аказалася ніводнай яго карціны, а толькі фотарэпрадукцыі работ.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

Яўген Самсонаў

# Ці «Быць Дабру»?

**Старанна рупяцца і шчыруюць глыбачане, каб іх горад – сталіца Беларускага пісьменства і друку 2012 года – выглядаў прыгожа. Каб госці, якія завітаюць на Свята, адчувалі сябе ўтульна і камфортна, цешыліся нашымі мясцовымі славутасцямі.**

На сённяшні дзень Глыбокае абнаўляецца і нагадвае вялікую будаўнічую пляцоўку. Гэта нармальная з'ява – нельга пасмажыць яйка не разбіўшы яго – ды і зроблена ўжо шмат. Напрыклад, прыемна глянуць на элементы ландшафтнага дызайну, якія створаныя майстэрскімі рукамі



працаўнікоў камунальнай гаспадаркі. Цешаць душу і іншыя аб'екты.

Але, на жаль, апроч аб'ектыўных цяжкасцяў і навалаў стыхіі, якая нядаўна разгулялася над Глыбокім, на глебе безкультур'я, свавольства і абыякавасці некаторых грамадзян штучна ствараюцца і суб'ектыўныя цяжкасці. Прыкладаў шмат: скрадзеныя і паламаныя лаўкі ў Барку і на скрыжаванні вуліц Леніна і Чапаева, засмечаныя пляцоўкі падчас святкоў 3 ліпеня і Купалля, свавольствы на дзіцячай пляцоўцы "Брыганціна".

Пару дзён таму да аўтара гэтых радкоў звярнулася суседка Крысціна Пісаронак і папрасіла, каб я сфатаграфаваў і надрукаваў у газеце, якую несанкцыянаваную звалку зрабілі на вуглу стадыёна СШ №1 жыхары бліззляжачых дамоў. Яна і яе сяброўка, Галіна Калугіна, на працягу значнага часу, ідучы ў касцёл, назіраюць ,як гэта звалка з кожным днём усё большае і большае. Звярталіся нават у ЖКГ і райвыканкам, але зрухаў няма.

А вось выпадак, які надарыўся вечарам 14 ліпеня і паспрыяў з'яўленню гэтага артыкула. Ліквідаваўшы чарговую аварыю, адвозіў дзяжурнага сантэхніка дамоў. Па вуліцы Савецкай, насупраць дома № 194, двое хлопчыкаў (аднаму год 5, другі ў два разы старэйшы) скакалі з пагурка на ўсталяваны элемент ландшафтнага дызайну "БЫЦЬ ДАБРУ". Затрымаўшы хлопчыкаў і знайшоўшы іх бацькоў (аўтар гэтых радкоў працуе ў аварыйна-дыспетчарскай службе УП ЖКГ Глыбоцкага раёна і па службовым абавязку павінен сачыць за парадкам у грамадскіх месцах), прапанаваў старэйшым выправіць наступствы свавольстваў хлопчыкаў. Маці меншага хлопчыка папрасіла прабачэння і адразу прынялася за работу, а вось бабуля старэйшага хлопчыка як бы пакрыўдзілася і сказала, што гэты элемент ландшафтнага дызайну павінен быць агарожаны. Зразумела, што весці далей размову з бабуляй пра агульначалавечыя каштоўнасці было дарэмна, бо ёсць такая катэгорыя людзей, для якіх існуюць толькі два меркаванні: адно - сваё асабістае, а другое – няправільнае.

З гэтай гісторыі мне падаецца, што меншы хлопчык наўрад больш будзе свавольнічаць, а вось за старэйшага, бабінага ўнука, я бы ручацца не стаў.

# У Глыбокім ідзе мэтанакіраванае знішчэнне гісторыі горада?

Ул. Скрабатун

Я не магу вольна прайсці па Глыбокаму, каб нехта не спыніў і не задаў адно й тое пытанне: *"Навошта тынкаваць старадаўні чырвонацагляны будынак Глыбоцкага гісторыка-этнаграфічнага музея? Ва ўсім свеце найбольш цэняцца менавіта такія аўтэнтычныя будынкі!"*

І гэта казаў мне не толькі чалавек з дыпломам архітэктара, гэта казаў і вадзіцель «дальнабойшчык», які аб'ездзіў паў-Еўропы...

Я ўжо тыдзень не хаджу ў цэнтр Глыбокага. Дык пачалі людзі прыязджаць да мяне дахаты. Яны лічаць, што я – НЕпаважаны ўладамі краязнаўца – магу спыніць гэтае варварства. Сёння ўжо наведалася чатыры чалавекі. Вось толькі што завітаў інжынер-энергетык і кажа: *"Хоть я и уроженец России, живу в Глубоком недавно, но у меня наворачиваются слёзы на глаза. Я не могу понять – зачем ко Дню белорусской письменности это красивое старинное здание нужно штукатурить. Они что – офонарели совсем?»*

Аўтар гэтых радкоў зрабіў спробу высветліць усе акалічнасці дадзенай справы. Адзін супрацоўнік аддзела культуры, які прасіў не называць яго прозвішча, паведаміў наступнае: *"Прыехалі дзве маладыя, зялёныя дзеўкі з Віцебска і сказалі, што ў іх ёсць дыпломы архітэктара. Паглядзелі на будынак музея і вынеслі вырак: "Это здание нужно утеплить!"*.

Будаўнікі-рамонтнікі, якія пачулі вырак, кінуліся ў рогат. – *А вы бачылі сцяну будынка?*– пытаюцца яны ў дзевак. І нібы рыбакі развялі рукамі: *"Таўшчыня сцяны – ВО! Гэта значыць – каля аднаго метра. Унутры "вакуумная муроўка". Гэтая сцяна ніколі не прамёрзне! Навошта будынак уцяпляць і тынкаваць зверху!"*

У нас толькі з дзясятак гадоў як з'явіліся вакуумныя вокны ПВХ, толькі цяпер пачалі ўцяпляць будынкі пенапластам і шклоalgatvatay ды тынкаваць зверху. А тут, без малога сотню гадоў таму, ужо існавалі тэхналогіі ўцяплення будынкаў, г.зн. – "вакуумная муроўка" сцен, калі ў тоўшчы сцяны пакідаўся "прасвет", рабіўся свайго роду "тэрмас".

– *Здание нужно утеплить!*– усё ж дамагліся свайго юныя дойлідкі. І пачалася работа па ўцяпленні і



тынкаванні будынка.

Зразумела, аўтар гэтых радкоў яшчэ месяц таму патэлефанаваў Антону Астаповічу, старшыні ГА Беларускае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры.

– *У Глыбокім знішчаюць помнік архітэктуры! Трэба неяк бараніць!*– кажу.

На наступны дзень тэлефануе спадар Астаповіч: *"Валодзя, я спраўдзіў спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў па гораду Глыбокае, і будынка музея ў тым спісе няма. Рады быў дапамагчы, але не магу!"*

– *Не сысці мне з гэтага месца!*– кажу. – *Гадоў дзесяць таму сам чытаў у раённай газеце, што будынку музея нададзены статус гісторыка-культурнай каштоўнасці, якая падлягае ахове дзяржавы.*

– *Ты, Валодзя, можа гэта і чытаў у раёнцы, але спісы ледзьве не штогод пераглядаюцца. Трэба было вашым уладам ізноў падаваць удакладнены спіс, а яны ці забыліся, ці паленаваліся…*

Вось і ўсё! Змагайся-не змагайся, пішы-не пішы, прапановы на ўключэнне нейкага будынка ў спіс аб'ектаў, якія падлягаюць ахове як гісторыка-культурная каштоўнасць… Уключылі. Удакладнілі. Выкрэслілі. Ты й ведаць не будзеш!

У Глыбокае на выхадныя дні – субота-нядзеля – прыязджае да 10 турыстычных аўтобусаў. Сам лічыў! Гэта значыць, калі ўзяць, што ў аўтобусе – 40 месцаў, то атрымліваецца – 10х40=400 чалавек. За два дні прыязджае – 400х2=800 чалавек. А за тыдзень? А за месяц? А за год?

І чаго гэтыя людзі едуць у Глыбокае? Запытайце любога глыбачаніна, і ён вам, без ценю сумневу, адкажа: *"Каб адчуць нашую гісторыю і паглядзець помнікі даўніны!"*

Нікога не зацікаўяць хрушчоўкі 1960-х гг, перапробленыя да Дня пісьменства пад "глыбоцкае барока". Прыгожа? Прыгожа! Але гэта – навабуд. Людзям, якія прыязджаюць да нас, патрэбная нашая сапраўдная гісторыя і культура, а гэтая гісторыя і культура шалюецца пластыкам, абшываецца пенапластам, тынкуецца. Ствараецца ўражанне, што робіцца ўсё магчымае, каб турысты забыліся ў Глыбокае дарогу.

# Стогадовы рубеж пераадолелі 574 беларусы

**У катэгорыі старэйшых за 110 гадоў на 1 ліпеня гэтага года было 11 чалавек – гэта 7 жыхароў Гродзенскай вобласці, 3 – Мінскай і 1 – Брэсцкай.**

Сярод беларускіх доўгажыхароў традыцыйна лідзіруюць жанчыны – іх у 5,7 разу больш (100-гадовую планку перасягнулі 488 жанчын і 86 мужчын).

Па-ранейшаму сярод рэгіёнаў краіны флагманам па ліку доўгажыхароў з'яўляецца Гродзенская вобласць: тут на 1 ліпеня налічвалася 124 чалавекі ва ўзросце болей за 100 гадоў. На другой пазіцыі ў гэтым геранталагічным рэйтынгу – Брэсцкая вобласць (95), на трэцім -- Мінская вобласць (86).



# Нужна помощь!

**Колбасич Кирилл**

**Диагноз:** Острый миелобластный лейкоз.

Нужны большие средства для пересадки костного мозга за границей (в Германии).

**Помогите!**

**Банк:** Открытое акционерное общество «Сберегательный банк «Беларусбанк». Отделение № 208/208 ЦБУ 208 филиала №216 ОАО «АСБ Беларусбанк» г. Глубокое, ул. Коммунистическая, 8А

Субкорреспондентский счёт № 6100006489066, код 648

Транзитный счёт 3819382309284

Владелец счёта Колбасич Ольга Викторовна.

# Фэст святой Ганны ў Лучаі 28-07-2012

**Парафія св. апостала Юды Тадэвуша ў Лучаі (Віцебская дыяцэзія, Пастаўскі дэканат) запрашае ўсіх жадаючых прыехаць, супольна памаліцца і адпачыць духоўна на Лучайскім фэсце, які будзе праводзіцца ў гонар святой Ганны 28 ліпеня г.г., пачатак у 17:00.**

Сёлетні фэст мае быць добрай нагодай, каб чарговы раз шчыра праславіць Бога праз заступніцтва нашых святых апекуноў. Будзе нагода духоўна ачысціцца ў сакрамэнце споведзі і трываць на адарацыі. Галоўным пунктам свята будзе ўрачыстая святая імша, якую праведзе пробашч "Чырвонага касцёла" з Мінску кс. Уладзіслаў Завальнюк. Таксама асвячэнне чарговых барэльефаў, якія ствараюць унікальнае Евангелле ў абразах вакол святыні.

А пасля, як звычайна, будзе святочная праграма з "Лучайскімі пачастункамі", забавамі, "Вёскай майстроў", узнагароды для футбольнай каманды сярод міністрантаў (матч пройдзе ў гэты дзень) і канцэрт з удзелам вядомых чатырох гуртоў. Заканчэннем фэсту – фаершоу з выкананнем новай песні аб Лучаі.

Той, хто хоць аднойчы пабываў у Лучаі, хоча прыехаць ізноў. Таму шчыра запрашаем Вас запланаваць гэты дзень для Лучая!!!

Святыня адчынена кожны дзень для наведвання. Дадаткова з 30 чэрвеня працуе фотавыстава беларускага фатографа Віталя Раковіча "Святло беларускіх храмаў".

Запрашаем! Будзем рады Вас бачыць!

## ПРАГРАМА:

**СВЯТЫЯ – НАШЫЯ СЯБРЫ НА ШЛЯХУ ДА НЕБА!**

17:00 - Адарацыя
17:30 - Святая Імша за ахвярадаўцаў
18:30 - асвячэнне барэльефаў
19:00 - мініфэстываль з пачастункам і забавамі
22:45 - фаер-шоу

*Кс. Мікалай Лінскі*

# Асвячэнне і ўрачыстае адкрыццё «Дома пілігрыма» адбудзецца 28 ліпеня 2012 года ў Мосары!

**Пілігрымы, якія шукаюць Божага супакою і прагнуць наталіць Божай ласкай свае духоўныя прагненні, змогуць знайсці ў ім прытулак, каб адпачыць душою і спыніцца на больш працяглы час у Мосарскім Санктуарыі.**



У «Доме пілігрыма» ўсё ёсць для жыцця, зробленыя ўсе выгоды, як у горадзе, таму можна спыніцца ў ім разам з дзецьмі. Парафія ў стане прыняць на начлег 17 чалавек!!!

Кожны пілігрым не павінен плаціць грошы, як у аграсядзібах, але можа толькі скласці ахвяраванне.

Таму шчыра запрашаем на асвячэнне «Дома пілігрыма», а таксама і на начлег у Мосар!

Падрабязная інфармацыя на сайце: **http://mosar.vickyblog.com**

Ксёндз **Аляксей Юркайць,** адміністратар парафіі Мосар.




■ Галляш Сялява

# Віктар Цярэшчанка будзе супернічаць на выбарах з Мечыславам Морхатам

**18 ліпеня ў Доме культуры ў мястэчку Слабодка (Браслаўскі раён) пачала працу ініцыятыўная група па вылучэнні кандыдата ў дэпутаты Віктара Цярэшчанкі. Спадар Цярэшчанка быў кандыдатам на прэзідэнцкіх выбарах 2010 года. На гэты раз кандыдат эканамічных навук прапануе сваю кандыдатуру ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў.**

Камісія Шаркаўшчынскай выбарчай акругі зарэгістравала дзве ініцыятыўныя групы па зборы подпісаў выбаршчыкаў у падтрымку вылучэння кандыдатамі ў Палату прадстаўнікоў:

■ Мечыслава Віктаравіча Морхата, 1958 г.н., старшыні Шаркаўшчынскага райвыканкама;

■ Віктара Іванавіча Цярэшчанкі, 1950 г.н., эканамічнага саветніка Бізнессаюза прадпрымальнікаў і наймальнікаў імя прафесара М. Куняўскага.

Сябры ініцыятыўных груп атрымалі пасведчанні і падпісныя лісты для збору подпісаў выбаршчыкаў. Падтрымаць асобаў, якія маюць намер вылучыцца кандыдатамі ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў, павінны не менш за 1000 выбаршчыкаў, якія жывуць на тэрыторыі выбарчай акругі (Браслаўскі, Шаркаўшчынскі, Пастаўскі раёны).

Вячаслаў Ігнатоўскі, каардынатар ініцыятыўнай групы, паведаміў нам, што ўсяго ў зборы подпісаў задзейнічана 278 чалавек.

Рэгістрацыя кандыдатаў пачынаецца з 14 жніўня і працягнецца да 23 жніўня.



**Віктар Цярэшчанка тлумачыць сябрам ініцыятыўнай групы, як запаўняць падпісныя аркушы. На выбарах у Палату прадстаўнікоў, якія адбудуцца 23 верасня 2012 года, ён будзе супернічаць у Браслаўскім, Пастаўскім і Шаркоўшчынскім раёнах са старшынёй Шаркоўшчынскага райвыканкама Мечыславам Морхатам.** *Фота Галляша Сялявы, 18.07.2012*

■ Ішуцін А.Н.
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МРА «Энерганагляду».*

# Правядзём уборку ўраджаю без электратраўмаў і аварый

Наступіў ліпень! Надышло спрыяльнае надвор'е і прыйшла пара ўборкі ўраджаю, што ў сваю чаргу звязана з вялікім аб'ёмам сельскагаспадарчых работ, якія часта праходзяць паблізу ці пад паветранымі лініямі электраперадач. У сваю чаргу тэрыторыі ахоўных зон ліній электраперадач не вымаюцца з сельскагаспадарчага звароту ці іншага выкарыстання.

Для забеспячэння захаванасці электрычных сетак напругай да і вышэй 1000 В, стварэнні звычайных умоў эксплуатацыі гэтых сетак і прадухіленні няшчасных выпадкаў вакол электрычных сетак усталёўваюцца ахоўныя зоны. І не выкананне правіл раьоты ў ахоўных зонах электраперадач часцяком прыводзяць да няшчасных выпадкаў.

Парадак і ўмовы выканання работ у ахоўных зонах ліній электраперадач павінны быць узгодненыя з арганізацыяй, якая эксплуатуе дадзеную лінію.

У ахоўных зонах ліній электраперадачы забараняецца:

● ужыванне высокагабарытных машын і механізмаў, без дамовы з уладальнікам электрычных сетак і нарады-допуску;

● прыпынак машын і механізмаў;

● транспартаванне высокагабарытных грузаў;

● знаходжанне абслугоўвага персанала на аўтамашыне, трактары, камбайне па-за кабінай ці ахоўнага брыля;

● праводзіць якія-небудзь дзеянні, якія могуць парушыць звычайную работу электрычных сетак, прывесці да іх пашкоджання ці да няшчасных выпадкаў.

Кіраўнікам гаспадарак неабходна правесці навучанне і інструктажы па электрабяспецы з усімі механізатарамі, якія ўдзельнічаюць у прыбіральнай кампаніі.

Энерганагляд папярэджвае, што ў адпаведнасці з Кодэксам Рэспублікі Беларусь пра адміністрацыйныя правапарушэнні па артыкуле 20.3 "Парушэнне правіл ахоўы электрычных сетак" вядзе да накладання штрафу ў памеры да 50 базавых велічынь, а на юрыдычную асобу да 500 базавых велічынь.

■ Цінковіч М.А.,
*старэйшы інспектар ДПС Глыбоцкага РАУС, капітан міліцыі*

# Прышпіліся да бяспекі!

**Пад такім дэвізам 27 ліпеня пройдзе Адзіны дзень бяспекі дарожнага руху. Галоўная мэта якога – яшчэ раз нагадаць кіроўцам і пасажырам пра неабходнасць абавязковага выкарыстання рамянёў бяспекі, а таксама дзіцячых утрымлівальных крэслаў.**

На дарогах працягваюць гінуць і атрымліваць раненні не толькі паўналетнія ўдзельнікі дарожнага руху, але і малалетнія пешаходы, пасажыры, веласіпедысты, якія дарослыя не дагледзелі і не ўсцераглі.

Толькі з пачатку гэтага года на тэрыторыі Віцебскай вобласці адбылося 9 ДТЗ з удзелам дзяцей, у якіх 2 дзіцяці загінула і 8 дзяцей атрымала целавыя пашкоджанні.

Некаторых дзяцей бацькі не лічаць абавязковым прышпіліць рамянём бяспекі і пасадзіць у дзіцячае ўтрымлівальнае крэсла, і як паказвае статыстыка, робяць яны гэта дарэмна, бо большасць дзяцей, патрапіўшы ў дарожнатранспартнае здарэнне, у сілу сваіх фізіялагічных асаблівасцяў атрымліваюць больш сур'ёзныя траўмы, чым дарослыя.

Паводле п.9.5 Правіл дарожнага руху кіроўца абавязаны быць прышпіленым і не перавозіць пасажыраў з непрышпіленымі рамянямі бяспекі пры руху ў механічным транспартным сродку, абсталяваным рамянямі бяспекі. За незахаванне гэтага патрабавання ПДР ён нясе адміністрацыйную адказнасць у выглядзе папярэджання ці штрафу ў памеры да 1 базавай велічыні.

Калі ж кіроўца праігнараваў дадзенае патрабаванне ПДР паўторна на працягу года, то на яго можа быць накладзена адміністрацыйнае спагнанне ў выглядзе штрафу ў памеры ад 2 да 5 базавых велічынь.

Некаторых кіроўцаў дадзеная адміністрацыйная адказнасць не бянтэжыць, і яны працягваюць ездзіць спадзеючыся на "ану", тым самым ставячы пад пагрозу не толькі сваё жыццё і здароўе, але і сваіх блізкіх.

Асабліва небяспечна не прышпілівацца на загарадных аўтадарогах, дзе хуткасці руху транспартных сродкаў значна ўзрастаюць, і калі адбываецца ДТЗ, то шанцы кіроўцы і пасажыраў выжыць і застацца цэлымі значна памяншаюцца.

Прыклад таму, дарожнатранспартнае здарэнне, якое адбылося на аўтадарозе Віцебск-Сянно-Талачын Сенненскага раёна, дзе вадзіцель, кіруючы аўтамабілем «ПежоБоксер», у выніку выезду на абочыну дарогі не зладзіўся з кіраваннем, з'ехаў у кювет і перакуліўся. У выніку ДТЗ з жыцця назаўжды сышла яго жонка, не прышпіленая на момант аварыі рамянём бяспекі.

**Паважаныя грамадзяне!** Хацелася, каб бездакорнае выкананне вамі Правіл дарожнага руху прыводзіла толькі да прыемных сустрэч з супрацоўнікамі ДАІ і было гарантам вашай бяспекі і дабрабыту на працягу ўсяго жыцця, а лічбамі статыстыкі дарожных здарэнняў сталі нулі.

**Алесь Гай,**
*г. Глыбокае.*

# Хто спыніць ягаднікаў-браканьераў?

Прычынай і тэмай гэтага артыкула з'явілася тое, што да мяне асабіста звярнулася ўжо не маладая жанчына Галіна Бурэнь. Аўтар гэтых радкоў даслоўна перадае яе расказ: “Вось ты і начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету паважаны А.В.Протас часта друкуеце ў газеце “Вольнае Глыбокае” артыкулы пра лясных ягаднікаў-браканьераў. Папершае, дзякуй газеце “ВГ”, што яна друкуе артыкулы на гэтую тэму.

Ты мяне добра ведаеш. Стаж зборшчыка ягад і грыбоў у мяне не менш сарака год. Шэсць гадоў таму назад у мяне памёр муж. Мы вырасцілі траіх дзяцей. Ва ўсіх вышэйшая адукацыя. У мяне пяць унукаў, і ўнукі ўсе дарослыя. Да чаго гэта ўсё? А справа ў тым, што цяжка было даць дзецям вышэйшую адукацыю, і мы займаліся з мужам зборам чарніц, брусніц, журавін, як кажуць, на здачу. Вельмі не хапала грошай. Ніколі ніводнага разу мы не карысталіся скрабкамі, камбайнамі. Ніколі не збіралі ягады раней устаноўленага тэрміну, бо гэта ніяк нельга было зрабіць. Была адна дзяржаўная нарыхтоўчая кантора. Пры прыёмцы ягад патрабаванні былі жорсткія. Чарніцы здаваліся, каб не было ніводнага лісточка, ніводнай галінкі. Не ведаю, як у гэтым годзе, а ў тым годзе здавала чарніцы на прыёмным пункце ў Давыдках. Гэта жах, што робіцца. Нейкая там прыёмшчыца дзясятак разоў сказала мне кампліменты за здадзеныя мной чарніцы. Ніводнага лісточка, ніводнай галінкі. І калі я стаяла ў чарзе, пад'язджалі іншамаркі, “Масквічы”, “Жыгулі”. Бачна, што ва ўсіх чарніцы былі сабраныя камбайнамі, скрабкамі. Усе гэтую жанчыну называлі Міхайлаўна. Было бачна, што гэтыя ягаднікі-браканьеры яе добра ведаюць, і бачна, што яна ўсіх ведае. Здзіўляе тое, што ніводнаму ягадніку-браканьеру яна не зрабіла заўвагі. Было некалькі маіх знаёмых з Глыбокага. Усе чамусьці называлі імя і прозвішча, як кажуць, “з паталка”. Не ведаю чаму, але вельмі мяне гэта здзівіла – падманваць прыёмшчыцу.

**Пры такім ураджаі чарніц сям'я з двух чалавек камбайнамі-скрабкамі зарабляе 400-500 тысяч рублёў у дзень.**

На маю думку, па-першае, патрэбна навесці парадак на прыёмных пунктах. Я так і не даведалася, хто гаспадар гэтага прыёмнага пункта. Ці ёсць у яго дазвол раённай улады на прыём ягад і грыбоў. Даведалася толькі, што гэты хапун-гаспадар жыхар не нашага раёна і нават не нашай вобласці. Чаму б не ўвесці, каб кожны зборшчык ягад прадстаўляў нейкі дакумент, хто ёсць на самай справе. Да канца года абкладваць нейкім падаткам гэтых лясных браканьераў, бо ў раённую скарбонку ад гэтага не паступае ніводнай капейкі грошай. Практычна, пры такім ураджаі чарніц сям'я з двух чалавек камбайнамі-скрабкамі зарабляе 400-500 тысяч рублёў у дзень. Гэта дзяржаўнае багацце - і ніводнай капейкі падатку. Я так і не разумею, мабыць, гэта каму выгадна.”

Здзіўляе тое (мяне асабіста), што Галіна Бурэнь прасіла А.В.Протаса не верыць ягаднікам-браканьерам, што яны гэта першы раз скрабуць скрабкамі, што бедныя, няма за што і хлеба купіць. Пражыўшы ўсё жыццё ў Глыбокім, практычна я ўсіх іх ведаю, ведаю, на якіх машынах яны раз'язджаюць.

**Гэтыя людзі – лясныя варвары, ніяк болей іх нельга назваць, акрамя грошай яны нічога не бачаць і не шкада ім ляснога багацця.**

Гэтыя людзі – лясныя варвары, ніяк болей іх нельга назваць, акрамя грошай яны нічога не бачаць і не шкада ім ляснога багацця.

Магчыма, я не правы, што ўзяў на сябе такія правамоцтвы, але паабяцаў, што “Вольнае Глыбокае” надрукуе гэты зварот Галіны Бурэнь да ягаднікаў-браканьераў. Вельмі прасіла яна, каб газета і А.В.Протас выказалі сваю думку, як спыніць ягаднікаў-браканьераў?

Аўтар гэтых радкоў згодзен пад кожным словам гэтай жанчыны паставіць свой подпіс.

Шчыра кажучы, я і раней думаў, што гэта толькі праблема нашага раёна. Неяк ужо і цэнтральнае тэлебачанне паказала сюжэт канфіскаваных скрабкоў-камбайнаў лясных браканьераў. Толькі дзіву даешся, да чаго могуць дадумацца нашы “Кулібіны”.

Хачу давесці да чытачоў “Вольнага Глыбокага”, што з пачатку сезона нарыхтоўкі лясных ягад дзяржаўная лясная ахова Міністэрства лясной гаспадаркі павялічыла колькасць рэйдаў, накіраваных на кантроль выканання грамадзянамі правіл нарыхтоўкі дзікарослых ягад. У выніку рэйдавых мерапрыемстваў дзяржаўнай лясной аховы да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнута больш за 300 парушальнікаў па арт. 15.26 КоАП (парушэнне правіл нарыхтоўкі і збору дзікарослых раслін). Акрамя гэтага, Мінлясгас нагадвае, што артыкул 15.26. КоАП прадугледжвае буйныя штрафы – да 20 базавых велічынь на ягаднікаў-браканьераў.

Так што падумайце, грамадзяне, ці ёсць сэнс парушаць правілы збору ягад?

**А.Г. Абрамчык,**
*дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

# Браканьеры, убачыўшы інспектараў згубілі мову і пачалі заікацца

Шмат надаецца ўвагі парушэнням прыродаахоўнага заканадаўства падчас збору ягад. За ліпень месяц супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі за збор ягад «грабянцамі» затрымана больш за 70 грамадзян, суму накладзеных штрафаў перавысілі 10 млн. рублёў, але, на жаль, парушальнікаў яшчэ хапае. Толькі ў перыяд з 16 па 23 ліпеня 2012 года супрацоўнікамі міжрайінспекцыі затрымана 9 парушальнікаў.

Аднак, праца інспекцыі складаецца не толькі з затрымання ягадных парушальнікаў, але і іншых браканьераў.

Так, 21 ліпеня 2012 года пры правядзенні планавых мерапрыемстваў супрацоўнікі інспекцыі арганізавалі назіранне за сажалкамі па гадоўлі рыбы рыбгаса «Навінкі». З 4 гадзін раніцы інспектары, змяняючыся па чарговасці, вялі назіранне за сажалкамі, але ўсё было ціха, здавалася б, можна і адпачываць, але нейкае сёмае пачуццё не давала жыцця. Старэйшы рэйдавай групы Федзічкін Аляксандр Аляксандравіч вырашыў яшчэ трохі панаглядаць і нездарма. Каля 13 гадзін дня з боку в. Гута з'явіўся мікрааўтобус Фольксваген, з якога выйшлі двое мужчын і, не разважаючы, накіраваліся ў бок рыбгаса. Федзічкін неадкладна перадаў інфармацыю другой групе назірання, і неўзабаве інспектары выявілі мужчын ужо на сажалцы. Двое сяброў, доўга не думаючы, прама ў адзежы залезлі ў сажалку і сталі даставаць з усталяваных раней мярожаў здабытую сажалкавую рыбу. Налавілі цэлы заплечнік і, задаволеныя ўловам, накіраваліся да машыны, але па дарозе з сажалкі іх ужо чакалі інспектары. На нейкі час у парушальнікаў знікла нават гаворка, яны сталі заікацца, бо нікога нідзе не было. Больш дасведчаны парушальнік, жыхар г.п. Варапаева спрабаваў ашукаць інспектараў, называў выдуманыя прозвішчы, але гэта яму не дапамагло. Матэрыялы на парушальнікаў накіраваны ў раённы суд.

Затрыманыя 16 ліпеня за незаконную лоўлю рыбы броднікам на штучнай сажалцы в. Гатаўшчына Глыбоцкага раёна грамадзяне Жук А.С. і Драгун С.В. падвергнуты раённым судом штрафу ў памеры 1 млн. рублёў кожны, разам здабытыя 6 карасёў пацягнулі больш за на 2 млн. рублёў.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету чарговы раз заклікае грамадзян да выканання прыродаахоўнага заканадаўства.

Супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі ўдзячныя грамадзянам, якія аказваюць дапамогу ў працы і неабыякавыя да захавання нашай прыроды.

Тэлефон «гарачай лініі»: 8-02156-2-86-70, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.

# У Крулеўшчыну прыцягнулі кітайскі электравоз

**Кастусь Шыталь**

**Грузавы электравоз БКГ1-001, які пабудавалі кітайцы для Беларускай чыгункі, днямі прыцягнулі на выпрабаванні ў Крулеўшчыну.**

Невядома, аднак, навошта яго выпрабоўвалі ў Крулеўшчыне. Дратоў над чыгуначнымі шляхамі тут няма, і электравозы сваім ходам хадзіць не могуць.

Аднак мястэчкоўцы з цікавасцю назіралі за новай тэхнікай.

Беларуская чыгунка падпісала ў 2010 годзе дамову з кітайскімі вытворцамі на пабудову 12 грузавых электравозаў. Першыя два лакаматывы прыцягнулі ў Баранавічы ў траўні 2012 года. Плануецца, што кітайскія электравозы будуць цягаць грузы на чыгунцы Орша - Мінск - Брэст.

Каштуе кожны такі лакаматыў 8,3 мільёны даляраў, набывалі яго за кітайскія крэдыты.



**Электравоз БКГ1, які Беларуская чыгунка набыла ў Кітаі, на выпрабаваннях у Крулеўшчыне.** *Фота forum.railwayz.info*

# Міжнародная парламенцкая стыпендыя (IPS) з практыкай у Германскім Бундэстагу

**У 2013 годзе Германскі Бундэстаг таксама прадастаўляе Міжнародную парламенцкую стыпендыю (IPS) выпускнікам вышэйшых навучальных устаноў Беларусі.**

Міжнародная парламенцкая стыпендыя (IPS) прадугледжана для выпускнікоў ВНУ, якія цікавяцца палітыкай, актыўна займаюцца грамадскай дзейнасцю і маюць вельмі добрыя веды нямецкай мовы.

На момант пачатку праграмы яны павінны быць не старэйшымі за 30 гадоў.

Стыпендыяты змогуць прайсці 15-тыднёвую стажыроўку ў аднаго з дэпутатаў Германскага Бундэстага. На перыяд іх 5-месячнага знаходжання яны будуць залічаны ва Універсітэт імя Гумбальдта ў Берліне і атрымаюць магчымасць наведваць вучэбныя заняткі.

Міжнародная парламенцкая стыпендыя (IPS) доўжыцца з 1 сакавіка па 31 ліпеня 2013 г.

Стыпендыя ўключае расходы на праезд, пражыванне і медыцынскую страхоўку, а таксама штомесячную грашовую дапамогу на харчаванне.

Заяўкі на ўдзел у конкурсе прымаюцца да 31 ліпеня 2012 г. у Пасольстве Германіі ў Мінску.

Больш падрабязная інфармацыя на сайце http://www.bundestag.de/IPS

*УНН 101166185*



